# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Чацвер, 22 верасня 1994 года

№ 101 (10801)

Цана 30 руб.


ФАКТЫ · ПАДЗЕІ · АРГУМЕНТЫ · МЕРКАВАННІ

## Чатыры выстаўкі

Сёння, у дзень адкрыцця Міжнароднай канферэнцыі "Нясвіж як частка еўрапейскай культуры", Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі сумесна з аб'яднаннем літаратурных музеяў, Нясвіжскім гісторыка-краязнаўчым музеем, пры ўдзеле Нацыянальнага архіва і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі арганізуе чатыры выстаўкі, якія аб'яднаны агульнай назвай "Нясвіжская скарбніца" і ўключаюць наступныя тэмы: чыста гістарычныя раздзелы "Радзівілы і Нясвіж", "Сведкі гістарычных падзей", у якіх размова пойдзе аб вядомых беларускіх дзеячах, а таксама аб радаслоўнай Радзівілаў, і "Літаратурная Нясвіжчына".

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадстаўляе для экспазіцыі гістарычныя палотны-партрэты "Ганна і Катажына Радзівіл" і "Аляксандра Радзівіл" — як частку вядомай карціннай галерэі, якой так славіўся Нясвіж.

Выстаўка будзе працаваць у Нясвіжы да канца гэтага года.

## НЕ ПАДВЯЛІ СТАРЭЙШЫХ

Народны фальклорны ансамбль "Крупіцкія музыкі" з калгаса "Новы быт" Мінскага раёна вядомы ўсёй Еўропе. Вось і цяпер ён быў запрошаны на міжнародны фестываль у Бельгію. Кіраўнік ансамбля Уладзімір Гром даверыў на гэты раз абараняць гонар славутага калектыву моладзі, а канкрэтна — другому саставу ансамбля. Трэба рыхтаваць дастойную змену. І за мяжу адправіліся маладыя — пяць пар танцораў, сем аркестрантаў і харавая група з 12 спевакоў.

На працягу дзесяці дзён крупіцкія самадзейныя артысты ўдзельнічалі ў двух фестывалях. У першым, які праходзіў на поўначы Бельгіі ў горадзе Хаселтэ і ў якім удзельнічалі таксама фальклорныя калектывы з Бельгіі, Іспаніі, Францыі, Ірландыі, Польшчы і Славакіі, прадстаўнікі Беларусі выступілі паспяхова.

Арганізатары фестывалю запрасілі "Крупіцкіх музыкаў" на другі аналагічны фестываль, але ўжо на поўдзень — у горад Джамбес. Тут нашым артыстам давялося выступаць разам з аматарамі фальклору з Венесуэлы, Арменіі, Венгрыі, Іспаніі...

Праграма гэтага фестывалю была даволі насычаная. За дзень даводзілася даваць тры-чатыры канцэрты. Яны праходзілі паспяхова, аб чым сведчаць працяглыя апладысменты гледачоў і цёплыя водгукі мясцовай прэсы.

Расказвае кіраўнік малодшых "Крупіцкіх музыкаў" Наталля Лісіца:

— Паездкай задаволены. Пазнаёмілі бельгійцаў з народнай творчасцю малавядомай для іх Беларусі і рады, што яна ім спадабалася. У сваю чаргу мы з задавальненнем часткова пазнаёміліся з Бельгіяй. І вельмі радуе, што з нашым калектывам пажадалі ў далейшым падтрымліваць двухбаковыя культурныя сувязі палякі, славакі, венгры і армяне.

*Георгій ЛЯНКЕВІЧ.*

## БЮДЖЭТ БУДЗЕ ЖЫЦЬ. АЛЕ ЦІ ВЫЖЫВУЦЬ БЕЗ ЯГО КАМУНАЛЬНІКІ?

У новым годзе дзяржаўны бюджэт пазбавіцца ад цяжару жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Аб гэтым на праведзенай у Кабінеце Міністраў прэс-канферэнцыі расказаў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура.

— Да нядаўняга часу насельніцтва рэспублікі аплачвала камунальныя паслугі толькі да 10 працэнтаў ад іх сабекошту, — сказаў міністр. — Астатняя сума пакрывалася з дзяржаўнага бюджэту.

Такая сістэма даціравання, на думку Батуры, сацыяльна несправядлівая. Дзяржава брала на сябе расходы як за людзей малазабяспечаных, так і грамадзян заможных, якія лёгка могуць і самі разлічыцца за паслугі камунальнікаў. Атрымлівалася, што ў "датацыйнай" выгадзе заставаўся той, хто меў большую і лепшую кватэру. Такая форма аплаты ва ўмовах пераходу на рыначныя адносіны непрымальная. Выхад са становішча Барыс Батура бачыць ва ўкараненні сістэмы адраснага субсідзіравання. Дзяржаўныя субсідыі для разліку па новых тарыфах за жыллё, цяпло, ваду змогуць атрымліваць толькі малазабяспечаныя грамадзяне. Для гэтага яны напішуць заяву і прадставяць дэкларацыю аб даходах. У кожным канкрэтным выпадку размер фінансавай дапамогі грамадзянам можа быць розны.

Перайсці на тарыфы, якія будуць поўнасцю пакрываць сабекошт камунальных паслуг, мяркуецца з 1 студзеня 1995 года. Паводле папярэдніх падлікаў эканамістаў, сярэдняя плата за камунальны сервіс не будзе перавышаць 15 працэнтаў ад сумеснага даходу сям"і. Прычым у розных гарадах і раёнах велічыня тарыфаў можа адрозніваецца ў большы ці меншы бок у залежнасці ад мясцовых умоў (стану абсталявання, цеплавых сетак, цэн на газ, мазут, вугаль...).

Як заўважыў міністр, сёння жыллёва-эксплуатацыйныя службы ў рэгіёнах чакае няпростая работа. Неабходна не толькі разлічыць новыя тарыфы, але і прадставіць у міністэрства іх абгрунтаванне.

На яго думку, увядзенне сістэмы субсідый прымусіць камунальнікаў істотна перагледзець арганізацыю сваёй працы і павысіць якасць аказваемых паслуг, паколькі ад гэтага напрамую будзе залежаць велічыня даходаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЖУРНАЛІСТЫ БУДУЦЬ З ЗАКОНАМ?

**Звыш 50 асноўных пытанняў будуць разгледжаны на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая пачне працаваць у аўторак, 27 верасня. Дэпутатам трэба таксама ўнесці змяненні і дапаўненні больш чым у 30 заканадаўчых актаў, ратыфікаваць каля 20 міжнародных пагадненняў.**

**Гэтыя лічбы назваў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кузняцоў, адкрываючы чарговае пасяджэнне парламенцкага Кансультатыўнага савета.**

Традыцыйна савет разгледзеў праекты многіх законаў, якія адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета прапануюць унесці на чарговую сесію. Умоўна абмяркоўваемыя дакументы можна раздзяліць на тры групы. Першую, калі законапраект прадстаўляўся так пераканаўча і дакладна, што ў прысутных наогул не ўзнікала пытанняў. Другую, калі ўзнікала дастаткова працяглая дыскусія. Трэцюю, калі рашэнне прымалася пасля кароткага абмеркавання.

Задаў тон пасяджэнню народны дэпутат Міхаіл Марыніч, які лагічна і пераканаўча абгрунтаваў неабходнасць разгляду на сесіі праекта Закона "Аб свабодных эканамічных зонах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь". Паказаўшы неабходнасць такога заканадаўчага акта на серыі прыкладаў з замежнага вопыту, М.Марыніч пералічыў шэраг пераваг, якія атрымае наша рэспубліка ў выпадку стварэння свабодных эканамічных зон /СЭЗ/. Гэта і з"яўленне новых рабочых месц, і павышэнне кваліфікацыі нашых рабочых, і рост экспарту, і папаўненне бюджэту, у тым ліку і мясцовага, за кошт розных падаткаў і пошлін... У нашу краіну будуць паступаць навейшыя дасягненні навукі і тэхнікі, прагрэсіўныя тэхналогіі, наша нацыянальная валюта зможа паступова перайсці да канверсуемасці, ды і наогул у шэрагу дзяржаў свету павысіцца цікавасць да Рэспублікі Беларусь. Што асабліва важна, — размова ідзе, як кажуць, не на пустым месцы. Ёсць добра падрыхтаваныя распрацоўкі па стварэнню СЭЗ на тэрыторыі Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, цікавыя напрацоўкі паступілі з Гомельшчыны і Магілёўшчыны, прыкладна 200 тысяч рабочых месц можна будзе стварыць на базе мінскага НВА "Цэнтр" пры пераходзе яго ў СЭЗ "Тэхнапарк", надзвычай выгадны праект асваення тэрыторыі ў раёне аэрапорта "Мінск-2". А канчаткова і беспаваротна члены савета згадзіліся з прамоўцам пасля таго, як ён прывёў шэраг красамоўных прыкладаў. Так, у Кітаі першая СЭЗ была створана яшчэ ў 1980 годзе, а заснавальнікі сучаснай канцэпцыі СЭЗ англійскія і амерыканскія эканамісты рэкамендуюць такія зоны перш за ўсё ў рэгіёнах са складаным эканамічным становішчам.

Самай працяглай атрымалася дыскусія вакол праекта Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, які першы атрымаў слова, раптам папрасіў... не выносіць Закон на цяперашнюю сесію. Міністр гаварыў аб тым, што ён апынуўся ў "двайной" сітуацыі: з аднаго боку, ён, безумоўна, за тое, каб Закон прынялі. З другога — каб Закон атрымаўся важкім і грунтоўным, трэба ўключыць у яго абмеркаванне як мага больш журналісцкіх калектываў, ды і наогул грамадзян рэспублікі. А праект Закона да гэтага часу ў друку не паяўляўся.

Аднак такі падыход не знайшоў разумення ў аўдыторыі. Кіраўнікі адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета Сяргей Давідовіч і Анатоль Вярцінскі расказалі аб тым, што пры Міністэрстве культуры і друку была створана рабочая група, прадстаўнікі Саюза журналістаў былі на ўсіх заключных пасяджэннях парламенцкай камісіі, пры падрыхтоўцы Закона да другога чытання было ўлічана шмат заўваг, у тым ліку і Міністэрства культуры і друку. Адным словам, дакумент зусім прыгодны для разгляду яго на сесіі. А дэпутат Іван Авін у выступленні міністра ўбачыў націск на Вярхоўны Савет, як ён сказаў, "з боку некаторых журналістаў", у якіх, маўляў, Анатоль Бутэвіч пайшоў на павадку. Развіваючы гэтую думку, Іван Авін сказаў, што за гэтым усім стаіць недавер да цяперашняга саставу парламента. "Чамусьці лічыцца, што новы Вярхоўны Савет разгледзіць гэты Закон лепш. Такі недавер мяне крыўдзіць".

Пасля вострай дыскусіі было вырашана прагаласаваць: выносіць законапраект аб сродках масавай інфармацыі на цяперашнюю сесію або не. Усе выказаліся адназначна: выносіць. Цяпер рашаючае слова — за Вярхоўным Саветам.

*БЕЛІНФАРМ.*

Камбінаваны глебаапрацоўчы агрэгат, зроблены на доследнай вытворчасці цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, ужо праходзіў выпрабаванні ў гаспадарках Слуцкага, Мінскага, Нясвіжскага і іншых раёнаў вобласці. Замест 5—6 звычайных праходаў пры апрацоўцы глебы, якія трэба зрабіць да сяўбы, пры яго выкарыстанні гэтыя аперацыі зведзены да 2—3.

Глебаапрацоўчы агрэгат праходзіў выпрабаванні на машынавыпрабавальнай станцыі ў Прывольным пад Мінскам і атрымаў высокую ацэнку.

**На здымку:** Васіль **ФАМУШКОЎ** (злева) і старшы навуковы супрацоўнік Святаслаў **ПІСЧЫК** абмяркоўваюць вынікі работы агрэгата ў адной з гаспадарак.

*Фота Анатоля ЛІЙКО.*

## УЛАСНЫМІ СІЛАМІ

Цэх па перапрацоўцы гародніны другі год працуе ў Пухавіцкім аб'яднанні грамадскага харчавання. Тут у самым разгары нарыхтоўка саленняў, квашэнняў, павідла. Усё гэта прызначана для наведвальнікаў сталовых, рэстаранаў, кафэ — усяго 81 прадпрыемства грамадскага харчавання, якія ёсць на тэрыторыі раёна.

Пастаўкай гародніны займаецца мясцовы саўгас «Дрычынскі», які вырошчвае якасную прадукцыю. Усё гэта абыходзіцца грамадскаму харчаванню танней, чым праз пасрэдніцтва нарыхтоўшчыкаў.

Дарэчы, летась уласных саленняў хапіла да з'яўлення новай гародніны.

## Долар павінен працаваць

У рэспубліцы адбылася поўная даларызацыя эканомікі. Такое прызнанне зрабіў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч. Паводле слоў галоўнага банкіра рэспублікі, на 1 верасня бягучага года аб'ём укладанняў у валюту заробленых прадпрыемствамі сродкаў склаў да 50 працэнтаў ад грашовай масы ў беларускіх рублях. Для захавання грошай ад інфляцыі прадпрыемствы проста заключаюць фіктыўныя кантракты, пад якія закупляюць на біржы валютныя сродкі і кладуць іх на дэпазітныя рахункі. Толькі па гэай прычыне попыт на долары ЗША штотыдзень перавышае прапанаванне больш чым на 10 мільёнаў долараў. Акрамя таго, павышаецца попыт на нямецкія маркі і расійскія рублі. У Нацыянальнага банка няма неабходнай колькасці валютных рэзерваў, каб ураўнаважыць шалі попыту і прапанавання і тым самым стабілізаваць курс валют. Як заўважыў Станіслаў Антонавіч, да ўсяго сказанага трэба яшчэ дадаць ад 22 да 66 мільярдаў рублёў, якія штомесяц застаюцца незапатрабаванымі ў кашальках насельніцтва рэспублікі.

Банкір выказаў надзею, што гэтая праблема можа вырашыцца з дапамогай указа Прэзідэнта, у якім прадугледжваецца поўная канфіскацыя валютных сродкаў з рахункаў тых прадпрыемстваў, якія набылі валюту толькі ў якасці сродку накаплення, а не для набыцця неабходных рэспубліцы тавараў.

*БЕЛІНФАРМ.*

### ■ У люстэрку статыстыкі

## Без наваселля. У кожным другім доме

Хацелася б парадаваць прыемнай навіной тых, хто з нецярпеннем чакае наваселля, аднак нічога не атрымліваецца. Адкладваецца яно ў маладзечанцаў, хаця адзін 72-кватэрны дом падрадчык — трэст №23 павінен быў здаць яшчэ ў першым квартале і такі ж — у другім.

Падобны лёс напаткаў і 60-кватэрныя дамы ў мікрараёне Паўночны горада Салігорска і Уздзе, 180-кватэрны — у пасёлку Навінкі Мінскага раёна, 39-кватэрны — у Капылі і шэраг іншых, тэрміны уводу якіх у эксплуатацыю скончыліся ў другім квартале.

Не атрымалі даху над галавой і 109 членаў жыллёва-будаўнічых кааператываў з Фаніпаля, Маладзечна і Вілейкі.

Адным словам, сарваны тэрміны здачы кожнага другога дома, у тым ліку і для перасяленцаў з Гомельскай і Магілёўскай абласцей. У прыватнасці, не змаглі прыняць 14 сем'яў у калгасе "Шацк" Пухавіцкага раёна і столькі ж — у Нясвіжы, 4 — у калгасе "Маяк" Дзяржынскага раёна, 16 — у калгасе "Лашанскі" Мінскага і шэрагу іншых гаспадаракМіншчыны.

У цэлым жа па вобласці калгасамі, прадпрыемствамі ўсіх форм уласнасці прадугледжваецца сёлета ўвесці ў дзеянне 9.956 кватэр. Фактычна ж за восем месяцаў здадзена 1.998 — 19 працэнтаў гадавога плана.

Сярэдні кошт аднаго квадратнага метра ўведзенага ў эксплуатацыю жылля (без індывідуальнага) склаў 45,5 тысячы рублёў (у новым вылічэнні).

За кошт сродкаў, выдзеленых на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі, мяркуецца пабудаваць 357 кватэр. А здадзена іх за восем месяцаў усяго 137.

Не лепшае становішча і з аб'ектамі камунальнай гаспадаркі. За восем месяцаў не ўвялі ні аднаго кіламетра сетак водапровода, каналізацыі, цеплазабеспячэння і газіфікацыі.

Горш таго, да першага верасня гасцінна расчынілі свае дзверы толькі 2 школы з 9-ці па плану. Астатнія наўрад ці запрацуюць і з новага года — тэхнічная гатоўнасць іх вельмі нізкая, а сродкаў для працягу работ практычна няма.

Да першага верасня не здадзена ні аднаго дзіцячага сада. Сарваны тэрміны ўводу аб'ектаў аховы здароўя — будаўнікі "парадавалі" адной амбулаторыяй на 40 наведванняў у змену ў калгасе "Іскра" Лагойскага раёна.

*Людміла ПРАВАЛОВІЧ, начальнік аддзела аблупраўлення статыстыкі.*

### ■ Навіны з Нясвіжчыны

## Купляй, дзядзька, камбікорм

У хлебных магазінах раёна цяпер няма чаргі. І не толькі таму, што гэты прадукт стаў даражэйшы. Паўсюдна наладжан продаж камбікорму для тых, хто трымае жыўнасць (не сакрэт, што раней многія скормлівалі хлеб жывёле).

Паводле слоў намесніка дырэктара гархарчпрамгандлю І.Толкуна, больш актыўна купляюць камбікорм жыхары райцэнтра. А вось у вёсках гандаль ідзе слабей. Там людзі атрымліваюць збожжа ў выглядзе натуральнай аплаты. Амаль кожны калгаснік, рабочы саўгаса мае магчымасць змалоць зерне ў млыне. Такім чынам, рацыён для гадаванцаў мікраферм не бяднее.

Як бачым, пры жаданні ўсё можна зрабіць па-гаспадарску.

## «Прыміце па асабістых пытаннях»

Куды звярнуцца чалавеку, каб вырашыць жыллёвую праблему, атрымаць прысядзібны ўчастак, дабіцца, каб правялі газ і г.д.? Вядома ж, у райвыканком. На жаль, сёння і тут не заўсёды "развяжуць" гэтыя тугія вузлы. Колькасць пісьмаў-скаргаў і пісьмаў-просьбаў зменшылася. Людзі хочуць "сам-насам" сустрэцца з кіраўнікамі райсавета.

Асабліва шмат "хадакоў" па жыллёвых пытаннях. Гэта раней, па лініі Саветаў будавалі дамы і кватэру можна было атрымаць бясплатна. Ужо трэці год узводзіцца 60-кватэрны дом ЖБК. Цэны на будматэрыялы растуць. І ў заказчыкаў не хапае сродкаў, каб разлічвацца. Дык як жа жыць маладым сем'ям, дзе знайсці прытулак? У райвыканкоме бездапаможна разводзяць рукамі.

## Будзе царква ў Кунасах

У вёсцы Кунасы, як і ў многіх іншых населеных пунктах раёна, у час сталінізму разбурылі царкву — цудоўны помнік архітэктуры. Цяпер прыхаджане і праўленне калгаса "Рассвет" узяліся за яе аднаўленне. Тут працуе пастаянная будаўнічая брыгада на чале з вопытным майстрам М.Шаратутам.

Ужо выкананы адказны ўчастак работы — накрыты дах. Цяпер вядуць аддзелку сцен, узводзяць перагародкі. Майстры-самародкі хочуць захаваць пры рэстаўрацыі ўсе архітэктурныя асаблівасці царквы, якая будзе доўга і надзейна служыць людзям.

## Плюс навейшыя прыборы

У засені таполяў і ліп размясцілася Сноўская ўчастковая бальніца. Памяшканне не новае, тое-сёе патрабуе рамонту. Але замінае дэфіцыт сродкаў. Калектыў медыкаў на чале з галоўным урачом В.Харашылавым імкнецца зрабіць усё магчымае, каб кваліфікавана лячыць хворых людзей.

Набыта шмат дасканалага абсталявання, з дапамогай якога праводзіцца ультрагукавое абследаванне брушной поласці, клінічныя і біяхімічныя аналізы, дзейнічае фізіятэрапеўтычны кабінет.

Медыкі вядуць прафілактычную работу сярод насельнцтва, шырока выкарыстоўваюць метады народнай медыцыны.

## Саламонава рашэнне

Выканком гарсавета прыняў пастанову аб забароне рыбнай лоўлі на сажалцы "Замкавая". Што абурыла аматараў-рыбаловаў, бо ў "загадзе" не сыходзяцца канцы з канцамі. Дзесяцігоддзямі сажалка не ўваходзіла ў лік "забароненых". Яна не прылягае да паркава-замкавай зоны (на гэтую акалічнасць і націскаюць у гарсавеце: маўляў, рыбакі будуць забруджваць усё навокал).

Але ж ёсць правілы рыбнай лоўлі. Няхай тыя, хто паскудзіць на берагах сажалкі, нясе адказнасць, няхай іх штрафуе інспекцыя па экалогіі. Дарэчы, лепш было б, каб гэтая інспекцыя змагалася з тымі, хто па начах ловіць рыбу сеткамі, хто прымяняе электравудзільны. Лягчэй за ўсё "штрафануць" падлетка або пенсіянера з вудаю.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

### Служба 02

## КРАДУЦЬ УСЁ, ШТО КЕПСКА ЛЯЖЫЦЬ

**Закончылася аперацыя "Правапарадак". Міліцыя Мінскай вобласці адпрацоўвала аўтадарогі, скрыжаванні, дзяржпрадпрыемствы і ўстановы, магазіны і ўвогуле тыя месцы, дзе магчымы крадзяжы дзяржаўнай або ўласнай маёмасці.**

Яшчэ завідна Дзіма пакінуў родны Жодзіна, перасек граніцу са Смалявіцкім раёнам і праз пэўны час падкаціў да клуба вёскі Барсукі. Маючы хадавую "васьмёрку", можна было прыгалубіць тут цудоўную прыгажуню. Але на гэты раз яго планам прыйшлося рухнуць. Гэта юнак зразумеў у тую хвіліну, калі да яго аўтамабіля раптоўна падкацілі іншамарка і "жыгулёнак", адкуль выйшлі дужыя хлопцы і не цыкаючы пачалі разборку. У выніку гора-кавалер апынуўся без машыны, скураной курткі і некаторых рэчаў.

Вярнуць прапажу змагла толькі міліцыя. Супрацоўнікі Жодзінскага і Смалявіцкага аддзелаў унутраных спраў разам пачалі пошук рабаўнікоў. Але пра злачынства адпаведныя органы даведаліся толькі праз тры гадзіны. Здарылася гэта па той простай прычыне, што Дзіма не ведаў нюансаў Крымінальнага кодэкса. Замест таго каб патэлефанаваць у Смалявіцкі РАУС, на чыёй тэрыторыі адбылося здарэнне, ён пешшу пайшоў у Жодзіна, дзе звярнуўся ў ГАУС.

Умомант былі апавешчаны асноўныя сілы двух аддзелаў унутраных спраў, што былі задзейнічаны ў аперацыі "Правапарадак" (а гэта 25 адзінак аўтатранспарту, каля 150 супрацоўнікаў міліцыі).

Ноччу адна з жодзінскіх груп міліцыі затрымала завадатара банды і яго "Аудыё-100". Смалявіцкай міліцыі давялося патраціць яшчэ 16 гадзін, каб давесці справу да лагічнага канца.

За час аперацыі па вобласці спынены 42 злачынствы, 20 іх удзельнікаў затрыманы. Спынены крадзеж рыбы ў рыбгасе "Альба" Нясвіжскага раёна, вываз 25 тон сухога малака з Валожыншчыны ў Прыбалтыку, крадзеж камбікармоў у Дзяржынскім раёне. Канфіскаваны 4 стрэльбы. Трапілі ў поле зроку работнікаў міліцыі 60 чалавек, якія знаходзіліся на рабочым месцы ў нецвярозым стане, 514 — затрыманы за п"янку, 54 — за самагонаварэнне і збыт "мармытухі". Усяго прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці каля 3 тысяч праваарушальнікаў.

Аўтару гэтых радкоў разам з работнікамі штаба УУС давялося пабачыць работу некалькіх райаддзелаў. Каля 2 гадзін ночы нашу аўтамашыну на скрыжаванні вуліц Мінская і К.Маркса для праверкі спынілі супрацоўнікі ДАІ капітан міліцыі Скварчэўскі і міліцыянер-шафёр сяржант Рэутовіч з Дзяржынскага ГРАУС. Сыпаў дождж, але яны пільна стаялі на варце. Не расчараваліся і арганізацыяй рэйду ў самім Дзяржынскім ГРАУС. Аператыўна-следчая група разбіралася з шафёрам з Самахвалавічаў, што быў затрыманы з 470 літрамі саляркі, якую перавозіў на асабістым аўтамабілі, а следчыя высвятлялі апошнія эпізоды крадзяжу 38 курэй з птушкафабрыкі г.п.Фаніпаля.

За дзве ночы дзяжурныя выкрылі 21 выпадак крадзяжу сельгаспрадуктаў, 14 з іх — бульбы. Добра папрацавалі міліцыянеры з Пухавіцкага, Барысаўскага, Валожынскага, Нясвіжскага і іншых РАУС.

Усяго па вобласці выкрыта 111 выпадкаў дробных крадзяжоў. І як вынік — аператыўныя зводкі на гэтым напрамку раскрымінаваліся.

*Віктар БЫКАЎ, супрацоўнік прэс-службы УУС Мінаблвыканкома.*



### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра — 17 — 22, у Мінску — 17—19 градусаў цяпла.

